# Ніва

ISSN 0546—1969
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 10 (1556) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 9 САКАВІКА 1986 г. ЦАНА 10 зл




* * *

Паўнеба перад вачыма
ўзыходзіць,
заходзіць назаўтра.
Цнатлівая аблачына
штораз ружавее ў анфас.
Змяняем сябе
і разам
змяняем зямлю азартна.
А невынішчальнае неба
з даверам
глядзіць на нас.

Аб невынішчальнасць праўды,
што чын свой высокі чыніць, —
разбіцца душой так проста,
як з'явіцца страх-уладар.
А можа, лягчэй ненамнога
таму, хто ёй сэрца расчыніць?..

Навошта ж яшчэ
сваё неба
нясеш на чужы алтар?..

Звана зледзянелае неба —
маўчыць маё неба ўрачона.
Ільды, што яго скавалі,
здзіраю — з крывёю — сама!..
Зняверaным і няверным
душу-аблачынку адтайце.
Аддайце
мне гэта неба!
Другога ў мяне няма.

**Люба Тарасюк**



Цяжка вам, дрэвы... (Белавежа пад снегам. Стар. 7).




## ЯКАЯ ПРАЎДА?

У 42 нумары „Нівы“ за 1985 год (20 X 85) надрукаваны артыкул А. Адамовіча пад шматабяцаючым загалоўкам „Не выракацца праўды“ Артыкул датычыць Тарашкевічаўскага перакладу „Пана Тадэуша“ А. Міцкевіча, які выйшаў з друку ў выдавецтве „Pojezierze” ў 1984 годзе з уступам і пад навуковай рэдакцыяй прафесар Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай.

Каб выявіць характар „праўды“, аб якой піша А. Адамовіч, хапіла б толькі сказаць, што выданне „Pana Tadeusza” з 1929 года пад рэдакцыяй Ст. Пігоня, на якое спасылаецца А. Яблонская, з'яўляецца другім тыражом першага выдання Бібліятэкі Нарадовай з 1925 года, аб якім гаворыць Адамовіч, і што прадмовы Пігоня ў абодвух выпусках ідэнтычныя!

Калі б аўтар узяў у рукі гэтае выданне і, замест беспадстаўна ачарняць адказнага і заслужанага для беларусістыкі вучонага, прачытаў бы ўжо на першай старонцы „Wydania pierwszego nakład drugi, przejrzany”, пазбег бы сораму і не рабіў бы работы, у выніку шкоднай для беларуска-польскіх адносін у нашай краіне.

Пасля вышэй сказанага з аўтарам артыкула можна было б у далейшую палеміку не ўваходзіць.

Аднак, маючы на ўвазе шырокія адгалоскі і цёплы прыём беларускага выдання „Пана Тадэуша“, з павагі да чытачоў „Нівы“ і да Браніслава Тарашкевіча спынімся яшчэ на тым, які тэкст „Pana Tadeusza” мог быць асновай перакладу і на самой прадмове Пігоня, якой А. Адамовіч даў зусім суб'ектыўную інтэрпрэтацыю.

Б. Тарашкевіч мог ведаць розныя выданні паэмы Міцкевіча. На працягу XIX і ў XX стагоддзі друкавалася іх шмат. Аднак існуюць падставы думаць, што для сваёй работы перакладчык выбраў школьнае выданне львоўскай Książnicy-Atlas у апрацоўцы Й. Быстшыцкага і М. Яніка, якое паўтаралася ў 1921, 1925 і 1926 гадах. Сведчыць аб гэтым перш за ўсё факт, што інфармацыя пра „апошні заезд у Літве“ унікальна змешчана ў рукапісах Тарашкевіча таксама, як і ў названым апрацаванні, на пачатку, перад перакладам 12 быліц паэмы. Таксама каментарыі Міцкевіча ўключаны (са спецыяльнай паметкай) у паясненні выдаўцоў. Тэкст перакладу, як і там, нумараваны праз кожных 5 вершаў.

З такім экземплярам пачаў Тарашкевіч працу над перакладам, але не давялося яму, вязню розных турэмных камер (Вронкі, Грудзёндз, Гродна), завяршыць сваю работу на гэтым жа тэксце. Прыкладна ад VIII быліцы ў Гродзенскай турме пераклад абапіраецца на выданні з некаторымі тэкстуальнымі ўстаўкамі, якія ўводзілі пазнейшыя выдаўцы Міцкевіча. Асаблівая гэта рыса беларускага перакладу „Пана Тадэуша“ — дваістасць польскага тэкста-асновы, уплеценая ў цяжар турэмнага лёсу яго перакладчыка Браніслава Тарашкевіча.

Наіўна было б думаць, што штуршок да перакладу магла даць Тарашкевічу прадмова Пігоня. Перакладчык з маладых год (ад 1916 г.) быў вядомы ў асяроддзі польскай інтэлігенцыі як знаток і любіцель паэзіі Міцкевіча (параўнай A. Bergman, Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu, s. 155, і іншыя). Эпапею „Пан

(Працяг на стар. 3)

# БЕЗ ЗДЗІЎЛЕННЯ НЯМА МАСТАЦТВА

## ІНТЭРВ'Ю „НІВЕ“ ДАЕ МІКАЛАЙ ДАВІДЗЮК

Мікалай Давідзюк — хто ён? Нарадзіўся ў 1944 годзе ва Уснаршчыне, што каля Гайнаўкі. Сам ён мастак, навучае ў Вышэйшай школе мастацтваў у Лодзі. Яго жывапісныя работы вядомыя ў Польшчы і за мяжою (Швейцарыя, Англія). Адзін з тых, хто лічыць вялікім гонарам заставацца беларусам!

*— Мікалай, табе ўжо саракоўка! Як мастаку гэта нямала, таму час сказаць пра свае ўдачы. Якія яны ў цябе?*

— У маім узросце, Сакраце, сапраўдныя ўдачы яшчэ перада мною.

*— Не хочаш сам хваліцца?*

— Лепей, калі іншыя хваляць.

*— Мікалай, ёсць такая праўда: сапраўднае мастацтва выяўляецца праз нацыянальнае (неабавязкова свядома). Хроснымі бацькамі нацыяў ёсць паэты, „маляры“, музыканты. Лічыш сябе беларусам, але ці ты сваё мастацтва бачыш таксама беларускім? А, можа, яно ў цябе акурат польскае?*

— Пытанне інтрыгуючае ды важнае вельмі! Неяк не думаў я пра гэта. Што ж, справа тут не ў дэкларацыях... Вось, можа, скажу лепей пра тое, як палякі ўспрымаюць мае карціны. Яны нязменна пад уражаннем нейкай „усходнясці“ ў іх, а некаторыя з іх гавораць пра... праваслаўніцтва. У час маёй апошняй выстаўкі званілі мне нават незнаёмыя людзі. Адны з роспытам, адкуль бярэцца ўва мне гэта „ўсходнясць“, іншыя — з прэтэнзіямі, чаму менавіта бярэцца, а былі і такія, якія ўбачылі ў маёй творчасці пагрозу для... чысціні польскай культуры. Вось так, пане Сакраце! Дадам да гэтага вось што: на першы погляд у маіх карцінах нічога „ўсходняга“ няма ў сэнсе нейкай рэчы ці наогул дэталі. Але ёсць, відаць, настрой... І тыя, хто ўмее адчуваць культуру, адчуваюць гэты настрой, гэтую „ўсходнясць“.

Ствараючы карціну, я спецыяльна не стаўлю сабе нацыянальных мэт. Для мяне важна, каб не пярэчыць свайму мастацкаму сумленню, каб задумацца над самім сабою. Бачыш, я думаю так: духоўна чалавек усталёўваецца ў дзяцінстве, і то бадай ранні. І нікуды ад гэтага не ўцячэш, калі ты сапраўды мастак. У дарослае жыццё кожны з нас робіцца, так сказаць, функцыянерам грамадства, выконвае пераважна тое, чаго чакаюць ад яго. І таму трэба сапраўды немалога таленту, каб гэтае „функцыянерства“ дарэшты не гнула тваю душу і ўсяго цябе. Мастаком можа быць той, у каго не памерла дзяцінства, характэрнае дзяцінству здзіўленне светам ды людзьмі. Гэта найпершы варунак, духоўны варунак, без якога немагчыма выяўленне індывідуальнасці. А адукацыя? Слухай, мастацкую акадэмію, як і універсітэт, можа закончыць кожны сяк-так здольны... Глянь, колькі людзей з дыпломамі мастакоў. Тысячы! Альбо і дзесяткі тысяч ужо...

*— Мастак гэта такое дарослае дзіцё?*

— Так, але не разумей гэта даслоўна. Уся справа ва ўражлівасці ды ва ўмельстве фармуляваць яе сродкамі мастацтва.

(Працяг на стар. 3)



## АБ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ (XXVII)

Сёння хачу выказацца на тэму перабежчыкаў, адшчапенцаў, сутнасць якіх зводзіцца да рэнегатызму. Аднак прыклад наш не адносіцца да перабягання ў польскую, а ва ўкраінскую нацыю. Спачатку паслухайма вельмі вымоўнае і як жа, у нацыянальным сэнсе, адназначнае выказванне, якое знаходзім у артыкуле „Быць беларусам“ аўтарства І.К., змешчаным у „Ніве“ ад 23 ІІІ 1980 года. Вось вытрымкі з гэтага артыкула: „Пачатковая школа ў Моры, у якой я вучыўся, была з беларускай мовай навучання. І тут вялікая справа — настаўніца беларускай мовы Ніна Цясноўская не толькі навучыла мяне пісаць і чытаць па-беларуску, але прышчапіла любоў да ўсяго таго, што беларускае. І так, дзякуючы Ніне Цясноўскай, маёй добрай і ветлівай настаўніцы, якая з кожным вучнем умела знайсці супольную дарогу да любві роднага — беларускага, я стаў карэспандэнтам „Зоркі“, затым „Нівы“.“

І далей: „Дзякуючы Ніне Цясноўскай, Яраславу Кастыцэвічу, Мікалаю Гайдуку я надалей пішу ў „Ніву“, не забыў і не забуду беларускай мовы.“

І на заканчэнне: „Пражываем у Польшчы, з'яўляемся яе паўнапраўнымі грамадзянамі. Беларусы — працавіты народ. Гэта вельмі важнае, за гэта любяць і шануюць нашых людзей. Нам не трэба і нельга паніжаць сябе. Так як не саромеліся свайго беларускага паходжання нашы продкі. А калі хто імкнецца пазбыцца свайго паходжання і продкаў, якія яго выдалі на свет, той не варты чалавечай годнасці“.

Прыгожа? Сапраўды было б прыгожа, калі б не было брыдка. Як не дзіўна, аўтар артыкула І.К. усе прыведзеныя фрагменты і асабліва канчатковыя вывады накіраваў супраць самога сябе. Справа ў тым, што І.К. ужо некалькі гадоў дэкларуецца як карэнны ўкраінец, а не беларус.

Перш за ўсё хачу сказаць, што нельга мець да чалавека найменшай прэтэнзіі за тое, што ён паляк, рускі, яўрэй ці ўкраінец. Украінцы — нашы браты і суседзі. З імі не раз спалучаў нас гістарычны лёс. І таму я заўсёды буду адкідаць каменні да таго, хто іх кідае, калі ляцяць яны ў бок украінскага народу. Тут, аднак, маем дачыненне з чымсьці зусім спецыфічным. З чалавекам-дэмагогам, з чалавекам-перабежчыкам. Зразумела, што чалавек, які так палымяна дэклараваў сваю беларускасць учора, а сёння не менш палымяна дэкларуе украінскую таясамасць, заўтра лёгка можа спяваць гімны нейкай зусім іншай нацыі.

Не так даўно наш добры актывіст, заслужаны культурны дзеяч і дырыжор Сяргей Лукашук у Бельску Падляшскім, перадаў мне словы І.К., які мне сказаць, што ён пайшоў да украінцаў таму, што Беларускае таварыства не выдала зборнік яго вершаў. Дзіўная аргументацыя! Значыць, з прычыны невыдадзенага зборніка можна памяняць нацыю?! Як жа добра, што мы гэтага зборніка не выдалі, дзякуючы гэтаму той, хто і так адышоў бы куды-небудзь заўтра, адышоў сёння. Чалавек сам сабе пан, і таму сам вырашае, да якой ён нацыі належыць. І за гэта да яго нельга мець прэтэнзіі. Аднак нацыя гэта не рукавічка, якую можна змяняць у залежнасці ад надвор'я або настрою.

(Працяг на стар. 6)



## „МАГІЛЁЎ“ АДПРАЎЛЯЕЦЦА Ў МАСКВУ

Нядаўна са станцыі Магілёў у першы рэйс адправіўся новы фірменны поезд. На вагонах надпіс, зроблены старажытнай вяззю — „Магілёў“. Фірменныя саставы „Беларусь“, „Мінск“, „Сож“, „Нёман“, „Дзвіна“ ўжо многа гадоў звязваюць гарады рэспублікі з Масквой, славяцца высокай культурай абслугоўвання, добрымі ўмовамі для пасажыраў. „Магілёў“ не ўступае ім ні ў чым. Поезд сфарміраваны з новых вагонаў. Па спецыяльнаму заказу прадпрыемствы Магілёўскай вобласці зрабілі для яго фіранкі і сурвэткі з беларускім арнаментам, дывановыя дарожкі для купэ і калідораў, чайны посуд. У кожным вагоне абсталяваны бытавы куток, маюцца свежыя газеты і часопісы.

## ФУТРА З ВАЛАКНА

У Наваполацкім вытворчым аб'яднанні „Палімір“ на першым пускавым комплексе атрыманы новы від прадукцыі — штучнае валакно мапан.

Яно мае шэраг пераваг перад сваімі папярэднікамі і будзе шырока выкарыстоўвацца пры вырабе высакаякаснага штучнага футра. Спецыялісты лічаць, што вырабы з яго задаволяць самы патрабавальны густ.

Каб атрымаць валакно мапан, спатрэбілася некалькі год.

Першы пускавы комплекс — адзін з буйнейшых у краіне. Важкі ўклад у яго стварэнне ўнеслі будаўнікі „Нафтабуда“, мантажнікі, рабочыя і спецыялісты „Паліміра“. Асвоіўшы праектную магутнасць, новапалачане будуць выпускаць 34 тысячы тон каштоўнага хімічнага валакна ў год.

## „НЯМІГА-2“

Імем старажытнай ракі Нямігі названы новы сорт трыцікале (гібрыд жыта і пшаніцы), выведзены вучонымі Інстытута генетыкі і цыталогіі Акадэміі навук Беларусі ў садружнасці з маскоўскімі і кіргізскімі селекцыянерамі. Навасёл хлебнай нівы — „Няміга-2“ прызнаны перспектыўным для вырошчвання ва ўмовах Кіргізіі. Пяцігадовыя выпрабаванні трыцікале на вялікіх плошчах паказалі, што сярэдняя ўраджайнасць сорту складае 60-70 цэнтнераў збожжа з гектара. На некаторых участках ураджайнасць дасягнула 100 і больш цэнтнераў.

## КАМПЮТЭР АСВОЙВАЕ СКОРАПІС

Выкладаць свае „думкі“ пры пісьме гэтак жа хутка, як і „думаць“, — такой здольнасцю надзялілі камп'ютэр вучоныя Інстытута электронікі Акадэміі навук Беларусі. Распрацаваная імі акустааптычная сістэма вываду інфармацыі друкуе выдаваемы ЭВМ тэкст са скорасцю 4 машынапісныя старонкі ў секунду! Кожны знак, які наносіцца на паперу або плёнку, складаецца з найдрабнейшых кропак, што пакідае пульсуючы з высокай частатой лазерны прамень. Створанае фізікамі арыгінальнае прыстасаванне, якое кіруе рухам „светлавога пяра“, забяспечвае выключна дакладнае адлюстраванне і павышаную надзейнасць работы сістэмы.

## СПОРТ

- 23-гадовы чэмпіён свету мінчанін Ігар Жалязоўскі на чэмпіянаце СССР па спрынтэрскаму мнагаборству заваяваў залаты медаль.
- На ўсесаюзных спаборніцтвах у Ленінградзе высокі вынік паказаў беларускі атлет Аляксандр Трашчыла. 300-метровы адрэзак прабег ён за 33,69 секунды. Такое цяпер і вышэйшае дасягненне краіны для закрытых залаў на гэтай дыстанцыі.
- Вельмі высока расцэньваліся шанцы зборнай Беларусі (пяць чэмпіёнаў Еўропы мінулага года) па чэмпіянаце Савецкага Саюза, які закончыўся ў Растове-на-Доне. Аднак толькі Анатоль Федарэнка з Гродна пацвердзіў свой тытул мацнейшага ў вагавай катэгорыі да 100 кілаграмаў.



## КУПЛЕНАЯ ЖОНКА

Змест нармальнага сямейнага суіснавання двух людзей складаюць, як вядома, сумесныя клопаты, узаемаразуменне, узаемапрыхільнасць, каханне. На Захадзе імклівы век уносіць у гэта новыя змены. У ЗША штогод расце статыстыка разводаў і ў практыку ўваходзіць ужо групавое скасаванне шлюбаў на адным судовым пасяджэнні. Рост колькасці разводаў тлумачыцца быццам тым, што сямейны стан замяняе дзелавой дзейнасці мужчын. Англічане звязваюць рост разводаў з ростам дарагавізны жыцця: халастому лягчэй пракарміць сябе аднаго, чым сям'ю, у чым ёсць, вядома, свая рацыя.

Ну, а калі нетрывалымі з'яўляюцца сем'і забяспечаныя, багатыя, чым гэта можна растлумачыць? Бадай, на гэта пытанне не змогуць дакладна адказаць і самі муж і жонка, якія скасавалі шлюб. Між тым, жыццё пралівае нейкае святло на гэтую праблему. Напрыклад, у ФРГ і некаторых іншых краінах Заходняй Еўропы стала модай заводзіць... экзатычных жонак. І мода гэта распаўсюджваецца ўсё больш шырока, нягледзячы на жывучыя ў буржуазным грамадстве расавыя забабоны. Чаму? Паводле меркаванняў заходняга друку, жонкі з Філіпін, Інданезіі, Тайланда, Індыі больш за ўсё адрозніваюцца не толькі прыгажосцю, галоўнае, яны для жыцця больш зручныя, памяркоўныя, у адносінах да мужа паводзяць сябе, як рабыні, маюць даволі сціплыя запатрабаванні да камфорту, не патрабуюць многа грошай на раскошныя туалеты, выезды і г.д., на што прэтэндуюць, скажам, тыя ж англічанкі, немкі, італьянкі, іспанкі.

Праўда, знайсці і выбраць такую жонку недзе ў Інданезіі таксама каштуе добрых грошай, паспрабуй адарвацца ад паўсядзённых спраў ды выбрацца з'ездзіць у такую далячынь, ды яшчэ там знайсці сабе абраніцу па густу. Не будзеш жа хадзіць па ўсіх вуліцах, вытрашчыўшы вочы на кожную стрэчную. Гэта шмат часу патрабуе. І вось на дапамогу жадаючым займець экзатычную жонку прыходзіць той жа выручальны пан бізнес. У ФРГ, у прыватнасці, з'явіліся спецыяльныя фірмы, якія прапануюць у гэтай казытлівай і нялёгкай справе свае паслугі. Вам не трэба ехаць на Тайланд за будучай жонкай. Вам варта прыйсці ў кантору — і справа ў шапцы. Найбольшую папулярнасць сярод такіх набыла ў Заходняй Германіі фірма мільянера Менгера, якая зусім нядаўна мела шырока раскіданае па свеце гандлёвае агенцтва па дастаўцы экзатычных раслін з краін Далёкага Усходу. Зараз яна пачала больш спецыялізавацца на жывым таварах. Калі вы хочаце ажаніцца на каляровай, заходзьце ў кантору Менгера, плаціце ўступны ўзнос. Тут вам пададуць каталог з самымі красамоўнымі, зробленымі па апошняму слову фотатэхнікі, здымкамі, і шукайце сярод іх сваю абранніцу. Побач з партрэтам кожнай жанчыны ці дзяўчыны зроблена самае падрабязнае апісанне яе прыкмет і якасцей: колер валасоў і вачэй, узрост, рост, аб'ём па грудзях і таліі. Партрэты даюцца ў розных ракурсах, з усмешкай і без, у профіль і фас. Так што памыліцца ў выбары цяжка. Ну, а калі памылка ўсё ж можа надарыцца, калі натура не будзе адпавядаць фотаздымкам, вы можаце адмовіцца ад адной і выбраць сабе другую сяброўку жыцця. Ва ўсякім выпадку фірма гарантуе дакладнасць усіх даных, змешчаных у каталогу, а як там наконт будучага кахання, характару будучай паплечніцы — справа асабіста ваша. Калі пашанцуе і ўсё будзе ўдала, то і добра.

Грошы ж давядзецца заплаціць немалыя, бо фірме трэба апраўдаць сваю работу па паездках, вярбоўцы, па перагаворах і перапісцы ў выпадку выбару. Фірме трэба ўтрымліваць шырока разгалінаваную сетку агентаў і таксама ж прыбытак, навар — гэта кожны павінен разумець. Тым больш, што знайсці нявесту, якая захоча звязаць

(Працяг на стар. 12)

**НАСТАЎНІКІ РОДНАЙ МОВЫ**

# ТАЦЦЯНА ШАЙКОЎСКАЯ

32 гады свайго жыцця аддала яна школе, выхаванню падрастаючага пакалення.

Таццяна Шайкоўская атрымала добрую падрыхтоўку да настаўніцкай прафесіі. У 1954 годзе закончыла (у беларускім класе) Педагагічны ліцэй у Бельску і ў гэтым жа самым годзе была накіравана на працу ў сямікласную школу ў Моры, што на Гайнаўшчыне. Там сем год працавала, навучала роднай мове і імкнулася да таго, каб дзецям на ўсё жыццё прывіць пашану да яе.

Ад 1961 года настаўнічае ў сваім родным пасёлку Орля. Любіць дзяцей, любіць выхаваўчую работу і яе любяць у школе.

У 1977 годзе Таццяна Шайкоўская завочна закончыла аддзяленне беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Зразумела, гэта лёгка ёй не прыйшлося, бо і праца ў школе, і сямейныя абавязкі паглынаюць шмат часу. Але вось ужо дзеці



яе дарослыя, дачка сямейная і мае двое сваіх дзяцей.

Тры разы Т. Шайкоўская была на месячных курсах беларускай мовы і літаратуры ў Мінску, пазнамілася са сталіцай Беларусі, а таксама з многімі літаратурнымі і гістарычнымі помнікамі. Сардэчна яна ўспамінае заняткі на гэтых курсах, якія вялі вялікія майстры педагагічнай справы. Многа ёй гэта дало. Урокі Таццяны Шайкоўскай сталі яшчэ больш прасякнуты духам пашаны да беларускай культуры, любоўю да нашай сацыялістычнай Радзімы, да людзей і працы.

14 лістапада 1985 г. Таццяна Шайкоўская была ўдастоена высокіх узнагарод. Атрымала яна грашовую ўзнагароду міністра асветы і Кавалерскі Крыж Ордэна Адраджэння Польшчы.

Яна таксама з'яўляецца актывістам БГКТ, уключаецца ва ўсе заданні, пастаўленыя X з'ездам БГКТ. У Арлянскім аддзеле Беларускага таварыства з'яўляецца членам рэвізійнай камісіі.

Тэкст і фота
**Міхася Хмялеўскага**

(Працяг са стар. 1)

# БЕЗ ЗДЗІЎЛЕННЯ НЯМА МАСТАЦТВА

*— У кожным чалавеку ёсць нешта з мастака?*

— У кожным, пакуль дарэшты не пераўтворыцца ён у таго „функцыянера жыцця". Паненкі прыгожа спяваюць, кавалеры пішуць вершы, і што з таго застаецца пасля іх замужжа ці жаніцьбы?

*— Ты ж жанаты!*

— Жанаты. Ці я кажу, што жаніцьба або замужжа абавязкова павінны стацца духоўнай катастрофаю?

*— Жыццё даканае...*

— Таму ў багатых народаў больш мастакоў, і гэта яны вырашаюць пра сутнасць мастацтва, мастацкасці ды эпохі ў мастацтве. Гэта Нідэрланды, Францыя, поўнач Італіі...

*— Быт вызначае свядомасць?*

— Пра гэта ведалі ўжо ў антычныя часы.

*— Як і пра тое, што мастацкасць гэта перш за ўсё здзіўленне светам. Той, каго ніхто і нішто не здзіўляе, не будзе ні пісьменнікам, ні паэтам, ні тым болей жывапісцам. Ну так, першыя здзіўленні пачынаюцца ў дзяцінстве...*

— ...Вось не дагаварыў я гаворанае. Рашучае для мяне значэнне мела якраз маё вясковае дзяцінства! Адно з такіх здзіўленняў запамяталася мне назаўсёды — гэта, сам ты здзівішся, урокі польскай мовы ў нашай заглухлай школцы. Калі я ўпершыню ў сваім жыцці сустрэўся з роспаччу ў сваіх пачуццях, дык гэта напэўна здарылася на тых уроках польскай мовы! Мне здавалася тады, што я ёй ніколі не навучуся, такой бачылася яна мне дзіўнай, незразумелай, прыдуманай як бы назнарок, каб надакучваць вучням. А хадзіў я ў сапраўдную беларускую пасляваенную школу, у якой усе прадметы навучаліся па-беларуску (а не так, як цяпер: толькі адну беларускую мову і то „з вялікай ласкі"). Гэта пра пачуццё роспачы. А пачуццё страху атаясамліваецца ўва мне з царквою. Нейк метафізічна страшна рабілася, калі з іконаў глядзеў на мяне суровы праваслаўны Бог! У дзівоснай шапцы, бліскучай. Такога страху я ўжо ніколі потым не спазнаў. І думаю сабе: гэтыя вочы гэтага страху ідуць за мною праз усё жыццё. І гэтыя вочы безупынна ў маіх карцінах, якія хрысцяць „усходнімі". Магчыма, таму карціна, на якой няма вачэй, для мяне гэта не карціна... А яшчэ пра захапленне. Было гэта пры першым калядаванні, калі хадзілі мы з звяздою. Цудна-таемная падвойнасць! — звязду тую змайстраваў жа я сам і, адначасова, змянялася яна ў нешта незямное, калі мы выходзілі з ёю... Была гэта, таксама, мая першая школа мастацтва.

*— Задалёка жывеш ад айчыны сваіх здзіўленняў...*

— Што ты, гэта ж не мае істотнага мастацкага значэння: магу жыць у нейкай Задрыпоніі ці нават у Калькуце. Аднак жа гэта не значыць, што я зусім глухі на вонкавыя ўплывы. Але гэтыя ўплывы я „пераварваю" па-свойму, а калі мне не ўдаецца, дык пазбываюся іх без аніякага жалю. Усё польскае ўплывае на мяне, гэта так. І адначасна вучыць яно мяне цаніць сваю іншасць, непадобнасць на польскае, хоць дзякуючы польскаму пасрэдніцтву я засвоіў еўрапейскую культуру і мастацкія традыцыі, вялікія традыцыі.

*— Ці ў гісторыі беларускага мастацтва ёсць нешта такое, што лічыш ты асабліва цікавым, арыгінальным або інспіруючым?*

— Так, ёсць, і то ў еўрапейскім маштабе! Гэта — беларускія іконы XVII і XVIII стагоддзяў. У іх творча сутыкнуліся дзве вялікія традыцыі жывапісу: візантыйска-руская і заходнееўрапейскае барока. У выніку адбыўся своеасаблівы сінтэз антыподаў, спалучэнне, здавалася б, неспалучанага. Гэтак часта ў мастацтве бывае.

Думаю, што гэтая спадчына найбольш беларуская з усяе беларускай. Мы яшчэ не прыгледзеліся да яе толкам, але недалёкі той час, калі ацэнім яе цалкам.

*— Таму табе карціна гэта ў нейкім сэнсе...*

— ...аднак — ікона! Справа не ў падобнасці карціны да іконы. Карціна, як і ікона, пачынаецца ад таго, што не ёсць яна ілюстрацыяй, ані люстрам рэчаіснасці. Замест глядзець намаляванае поле, лепей глядзець натуральнае, для прыкладу кажучы. У карціне самым важным з'яўляецца колер, а яшчэ іначай гаворачы — дынамічная раўнавага паміж колерам і формай. У карціне могуць быць вартасці эмацыянальныя і сімвалічныя (іншых я не прызнаю). Карціна, на якой, напрыклад, карова абазначае толькі карову і нічога больш апрача каровы як мяснога для чалавека стварэння, гэта не карціна, гэта не мастацтва. Гэта ў лепшым выпадку ўдана намаляваная цацка, і ўсё.

*— Над чым цяпер працуеш?*

— Рыхтую сёе-тое на прапанаваныя мне выстаўкі. Заўважаю, аднак, што мяне штораз менш цікавіць тое, каб недзе паказацца са сваім мастацтвам... Магчыма, таму, што перажываю якраз нейкі зваротны момант у сваёй творчасці, аб чым чую таксама і ад сваіх сяброў.

*— Па-мойму, Мікалай, гэта ад свядомасці ўласнай вартасці, свайго ўжо месца ў свеце культуры. Той, у каго ёсць культурны густ і разуменне мастацтва, карціны-давідзюкі пазнае здалёку! Настолькі сталі яны адметнымі і непаўторнымі сваёй мастацкай філасофіяй, асаблівай гармоніяй колераў, выслоўем.*

**Гутарыў Сакрат Яновіч**




(Працяг са стар. 1)




Тадэуш" Тарашкевіч вельмі цаніў. Цытуем яго словы, выказаныя з нагоды сотай гадавіны першага выдання „Пана Тадэуша": „... jeżeli w literaturze nowożytnej mamy koniecznie znaleźć odpowiednik „Iliady" i „Odysei", to istotnie możemy wybrać chyba jedynie „Pana Tadeusza". (Odbrązowienie Mickiewicza, „Trybuna Radziecka" nr 13 z 26.I.1935). I сапраўды паэт-перакладчык выбраў спачатку „Іліяду", потым „Пана Тадэуша".

Калі ўлічыць, што ад 1920 года Тарашкевіч быў членам праўлення Беларускага навуковага таварыства, якое, між іншым, паставіла сабе мэтай апрацаванне плана перакладаў найбольш выдатных твораў сусветнай літаратуры на беларускую мову, і што фрагменты свайго перакладу „Іліяды" надрукаваў Тарашкевіч у віленскім „Беларускім звоне" ўжо ў 1922 годзе (A. Bergman, цыт. праца, ст. 67) — матывацыя перакладу „Пана Тадэуша" робіцца відавочнай.

Натуральнасць і штодзённасць мовы перакладу Тарашкевіча, насычанай дыялектнымі словамі і зваротамі, несумненна, наблізілі паэму Міцкевіча беларускаму чытачу. Адначасова добра перадалі задуму і стылістычны прыём самога аўтара, які пісаў непасрэдна і проста, з захаваннем вядомых яму з роднай Навагрудчыны польскіх і беларускіх рэгіяналізмаў.

**На аснове гэтага, а тым больш на аснове прадмовы Пігоня да чарговых выданняў арыгінальнага тэкста ніяк нельга аднак рабіць вывады аб тым, што мовай дзяцінства Міцкевіча была беларуская і што толькі пад уплывам „езуіцка-касцельнай адукацыі... Міцкевіч мяняе мову, але не выракаецца яе" і таму падобнае. Нічога такога ў прадмове Пігоня няма. А. Адамовіч у вусны Пігоня ўкладвае свае асабістыя думкі. Датычыць гэта і іншых вывадаў Адамовіча наконт гісторыі Літвы і яе этнічнай, юрыдычнай і моўнай сітуацыі ў час царскага там панавання перад вайной 1812 года.**

Каб не быць галаслоўнымі, прывядзем некалькі аўтэнтычных выказванняў Пігоня, якія чытач можа параўнаць з „праўдамі" Адамовіча наконт прадмовы гэтага гісторыка польскай літаратуры.

1. У першай частцы прадмовы там, дзе гаворыцца пра вялікую любоў Міцкевіча да родных старон Навагрудчыны, да шчаслівай краіны дзяцінства, Пігонь падкрэслівае, што прыродная здольнасць Міцкевіча да назірання акружаючай яго рэчаіснасці была дадаткова паглыблена пэўнымі знешнімі фактарамі, сярод якіх першае месца займала ідэйная праграма філарэтаў (параўнай ст. XIII прадм.) „Za tą podnietą obchodziła go szczególniej polskość ziemi rodzinnej, zwłaszcza polskość trwająca, żywa jeszcze w dawnym, tradycyjnym kształcie, — zatem w pierwszym rzędzie ludzie i rzeczy bezpośrednio powiązani z zanikającą już epoką niepodległości".

2. Мясцовай беларуска-польска-татарскай шляхце супрацьставіць Міцкевіч Дабжынскіх — мазурскую шляхту асадніцкую. Пра гэта піша Пігонь: „Za narzędzie ciemnej swej sprawy obrał Gerwazy Dobrzyńskich, w ten sposób wyzyskał dla siebie stary, przygasły już, ale przecież żywy antagonizm mazursko-litewski. Bo Dobrzyńscy to szlachta mazurska; choć siadła od lat czterdziestu na Litwie, przecież świadoma swej odrębności i zawzięcie ją kultywująca. Żeby konflikt wyszedł tym mocniej, poeta — z tych właśnie ideowych względów — stawia sprawę w poemacie tak, jak ona w życiu z początkiem XIX w. już w tamtych stronach nie istniała: każe Mazurom-Dobrzyńskim utrzymywać odrębność rasową, nawet językową, wśród szlachty białorusko-polskiej w bezwzględnej czystości, w wyodrębnieniu, które w rzeczywistości dawno już zanikło. Ale tu taka odrębność była poecie potrzebna. Więc też ją od siebie do utworu wprowadza". (st. CXXXII). Паводле Пігоня ў „П.Т." маем дачыненне з гістарычным анахранізмам.

3. Міцкевіч быў гарачым прыхільнікам польска-літоўскай уніі. Па-

(Працяг на стар. 4)

(Працяг са стар. 3)




водле Пігоня гэта ідэя з'яўляецца галоўнай і знаходзіць сваю вяршыню ў апошніх быліцах „Пана Тадэуша". Пігонь цытуе фрагмент тэксту IX быліцы, які прыводзім у перакладзе Тарашкевіча:

Дабрынскія зноў жа наўзавады лупяць з Літвою,
Нягледзь на даўнейшыя споры паміжы сабою.
Па-брацку паможа адзін аднаму, намудрує,
Дабрынскія бачаць, як лоўка Падгайскі картуе
Шарэнгу стральцоў і бліскучай касою рубае,
Дык радасна клічуць: „Няхай жа жывуць нам Падгаі!
Ура, ліцьвіны! Ну, гарачы іх бой і малітва!"
Скалубы ж, пабачыўшы, як маладзецкі там Брытва,
Хоць ранец ляціць, сваю шаблю падняўшы пад хмуры,
Ускрыкнулі „Ура, Мацюкі! Хай жывуць і Мазуры!"
Падаўшы так духу сабе, на маскоўцаў ляцелі.
(ст. CXXXIV)

У XI быліцы знаходзім радкі, якія таксама цытуе Пігонь:

І дзіўныя лёсы і гэтае нашай Кароны
І нашай Літвы! Гэта ж так, як муж з жонкаю — пара!
Бог луча ўсё, але дзеле чартоўская мара!

і некалькі вершаў далей:

„Сягодня Літва із Каронай злучаецца згодна.
То значыцца, згладжана, згоджана ўсё, ўсенародна!"

Ужо гэтыя тры фрагменты прадмовы Пігоня дастаткова раскрываюць яе ідэйны змест. І гэта не мы сказалі, што „Пігонь, як выдатны тэарэтык і знаўца літаратуры, выказаў шмат асабістай інвенцыі ў раскрыцці падзеяў мінулага часу. Пры гэтым характарызуе яго строгая аб'ектыўнасць ацэнкі бачанага свету" (А. Адамовіч).

Аб'ектыўнасці Пігоня супрацьставіць Адамовіч „тэндэнцыйнасць" даследавання А. Абрэмбскай-Яблонскай. Рэдкі выпадак абсурдальнасці ацэнкі.

І апошняя справа — сувязь Тарашкевіча з польскай культурай бясспрэчная. Сведчыць аб гэтым усё яго трагічнае жыццё, шляхі палітычнай дзейнасці, што пацвярджае ён сам, калі ў „апошнім слове" на працэсе „Грамады" скажа аб сваёй прывязанасці да польскай культуры (А. В., с. 164). Гэты факт не стаіць у ніякай супярэчнасці з яго вострымі супрацьурадавымі прамовамі ў сейме, з яго барацьбой за нацыянальныя правы беларускага народа, за беларускую асвету і культуру, за сацыяльна-эканамічнае паляпшэнне жыцця сялян.

**Рэдакцыйны калектыў „Пана Тадэуша".**
(Ганарар на музей)

# НОВЫ КЛУБ СЕЛЯНІНА

**У Гарадзісках ужо два месяцы дзейнічае клуб селяніна. Аб такім клубе жыхары вёскі даўно марылі. У гэтых марах ім дапамог былы начальнік гміны інж. Іван Тапалянскі і ГС у Нарве. Крыху аб тым, як і з чаго пабудавалі гэты прыгожы клуб. Дык вось, жыхары Гарадзіскаў атрымалі два будынкі з Скарышэва, якія ім дала гміна, а ўсе патрэбныя матэрыялы забяспечыў ГС у Нарве. Фінансавала таксама гміна.**

Людзі прыступілі да працы. Выбралі камітэт пабудовы, які ўзначаліў Мікалай Грыгарук. У чэрвені 1983 года ўсе дружна залілі фундаменты, перавезлі тыя купленыя хаты. Усё рабілі ў пачыне. Ніхто не адмовіўся ад работы.

І цяпер люба паглядзець на такі прыгожы будынак! У ім змяшчаецца і крама, добра забяспечаная рознымі прадуктамі. Клубам гэтым апякуецца ГС у Нарве і, трэба сказаць, добра пра яго дбае.

Кіраўніком клуба з'яўляецца Яўгенія Хіліманюк — гэтая цікавая і энергічная жанчына вядзе таксама гурток вясковых гаспадынь і яна ж солтыс вёскі. Яна ўвогуле — сэрца вёскі. У яе ёсць гаспадарка, дзеці і добры муж Іван, які ва ўсім дапамагае.

Але я адыйшла трохі ад тэмы. У суботу 11 студзеня жыхары вёскі Гарадзіскі наладзілі ўрачыстае адкрыццё клуба. Запрасілі многа гасцей з гміны і ГСу (на жаль, мала прыехала). Запрасілі і калектыў „Тыневічанкі", які прыехаў ахвотна, хоць запрашэнне прыйшло ў поўдзень таго самага дня.

Жыхары вёскі таксама не ўсе прыйшлі на свята свайго клуба, хоць было многа народу. А прыйсці было варта — было вельмі прыгожа і радасна. І відаць, што ўсе гарадзішчане задаволены і шчыра дзякуюць гміне і ГСу за дапамогу ў пабудове клуба.

Канцэртам у Гарадзісках у суботу 11 студзеня „Тыневічанкі" распачалі свой культурны сезон. „Тыневічанкі" дзякуюць арганізатарам за запрашэнне і за багаты пачастунак, якога нават не спадзяваліся.

**Н.С.**



**„Беларуская песня-85". Калектыў з Гданьска — трэцяе месца ў сучаснай песні. Фота М. Гайдука.**



## СЛАЎНЫ ЮБІЛЕЙ

Жыццё пражыць — не поле перайсці. Ды пражыць яго ў здароўі і ў патрэбе для іншых — справа не простая.

Мікалай Куклік з Паўднёвага Вострава (гміна Крынкі) усё сваё працоўнае жыццё пражыў у роднай вёсцы, а толькі тады, калі пайшоў на заслужаную пенсію, пераехаў жыць у Беласток.

24 студзеня мінула яму 70 год. Адсвяткаваць слаўны юбілей бацькі прыбылі да яго ва ўласную хату тры сыны, чатыры ўнукі і блізкія сваякі. Былі тосты, кветкі і песні, а таксама расказ юбіляра аб сваім жыцці-быцці. Зразумела, Мікалай Куклік са сваёй жонкай Надзяй падрыхтаваліся належна да гэтых угодкаў.

Быў гэта вядомы чалавек у гмінах Крынкі і Шудзялава. Працаваў на гаспадарцы, быў гаёвым у лясніцтве Сасновік, быў крамаром у сваёй вёсцы, старшынёй грамадскай рады ў Гуранах, старшынёй рады надзорчай у ГСе Крынкі, быў таксама сакратаром партыйнай арганізацыі ў сваёй вёсцы.

Мікалай Куклік узнагароджаны шматлікімі ордэнамі і медалямі, у тым ліку і Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы, а ў мінулым годзе атрымаў Медаль 40-годдзя ПНР.

Мікалай Куклік яшчэ адчувае сябе і выглядае добра. Яму аніяк не дасі 70 год. Дык няхай у шчасці і здароўі жыве 100 год мой былы аднавясковец Мікалай Куклік!

Тэкст і фота
**Міхася Хмялеўскага.**

**ВЕСТКІ З ПРАКУРАТУРЫ**

# АБ ЗЛАДЗЕЯХ І ЗЛАЧЫНЦАХ

Пад канец студзеня г.г. Ваяводская пракуратура ў Беластоку запрасіла журналістаў на традыцыйную ўжо сустрэчу, каб праінфармаваць нас аб сваіх намаганнях у галіне аховы грамадзян ад зладзеяў і злачынцаў ды ад іншых аматараў лёгкай нажывы за чужы кошт. Я ахвотна скарыстаў з гэтага запрашэння, бо летам мінулага года сам парадачна „атрымаў" ад маладых хуліганаў, якім не хапіла грошай на выпіўку.

Ваяводскі пракурор Марак Лахоўскі найперш з задавальненнем адзначыў, што крымінальная статыстыка за мінулы 1985 год дае аснову да памяркоўнага аптымізму. Ад 1976 г. органы аховы грамадзянскага парадку пастаянна назіралі нарастаючую колькасць усялякіх злачынстваў, асабліва зладзейскіх вылазак па прыватную і дзяржаўную маёмасць. Крадзяжы з узломам у прыватныя кватэры і дзяржаўныя і спулдзельчыя аб'екты станавіліся ўжо амаль надзённай справай.

— У 1985 годзе, — гаварыў ён — мы ўпершыню ўтаймавалі нарастаючую хвалю злачынстваў.

І тут пасыпаліся лікі ды працэнты, якія даказваюць выдатную працу органаў аховы права і грамадзянскага парадку. Узломаў у прыватныя кватэры было менш ў 1985 годзе на 13% у параўнанні з 1984 г., у дзяржаўныя і спулдзельчыя ўстановы (маюцца тут на ўвазе розныя крамы, склады, фабрыкі) — аж на 38% менш, разбойніцкія хуліганскія вылазкі зменшыліся больш чым на 3%, самагоншчыкаў злавілі на 14% менш, а гвалты жанчын здараліся ў 1984 годзе ў два разы часцей, чым у 1985 г.

Слухаў я гэту своеасаблівую статыстыку, а па галаве блукала думка: ці гэтыя лікі выпадкова не сведчаць аб меншай актыўнасці ды працавітасці і ахвярнасці нашай міліцыі? А, можа, зладзеі і разбойнікі настолькі ўхітрыліся ў сваіх злачынных вылазках, што міліцыя не ў сілах іх злавіць? Я ж таксама пасля трох месяцаў пошукаў „маіх" разбойнікаў атрымаў з раённай пракуратуры ў Беластоку афіцыйнае паведамленне, што „...па прычыне невыяўлення віноўнікаў пракуратура вымушана спыніць разгляд справы".

Пракурор і на гэты раз развеяў мае сумненні. Ён аўтарытэтна заявіў, што выкрывальнасць усялякіх злачынстваў у апошні час наглядна ўзрасла. Калі ў 1984 г. міліцыя выявіла толькі 66 прац. усіх віноўнікаў розных злачынстваў, то ў 1985 годзе гэты паказчык павысіўся ў карысць міліцыі амаль да 80 прац. (дакладна — 78,8%). Як бачым, усё яшчэ больш за 20% злачынстваў астаецца невыяўленымі. Значыць, сярод пяці зладзеяў і разбойнікаў адзін ходзіць сабе спакойна на свабодзе і смяецца ў кулак з міліцыі і ўсіх іншых органаў грамадзянскага парадку ды са сваіх ахвяр. Відавочна, мне асабіста якраз і пашчаслівілася сутыкнуцца з гэтым „пятым". Такое маё касавокае шчасце.

Пракурор М. Лахоўскі кажа, што асноўны ўплыў на памяркоўнае ўтаймаванне злачынстваў мелі завостраныя адносіны да віноўнікаў. Гэта вынікае з сеймавай пастановы ад 10 мая мінулага года. Пракуроры часцей прымяняюць дасудовыя арышты віноўнікаў, а суды, апрача турэмнага зняволення, усё часцей накладаюць высокія грашовыя штрафы. Здарылася вось у Беластоку такая гісторыя, што суд засудзіў канфіскацыю цэлага дома-асабняка вартасцю ў некалькі мільёнаў




Дарагое Сэрцайка!

Прабач, што да цябе звяртаюся я, старая жанчына. Усё ж гэта твая рубрыка для маладых, у іх ёсць сардэчныя праблемы, радасці і клопаты.

У мяне ёсць дачка, якой ужо споўнілася 25 год. Скончыла вышэйшую школу, працуе. І пакахала яна хлопца (таксама з вышэйшай адукацыяй, працуючага) цэлым сэрцам, першым сапраўдным каханнем. Так, так — першым, бо нейк усё так складвалася, што не мела занадта часу на хлопцаў і на гулянку. Вельмі добра вучылася, а гэта паглынала ў яе мноства часу. Часамі былі нейкія хлопцы, але ў асноўным былі гэта проста сябры, калегі. А вось два гады таму назад яна пакахала ўпершыню і ўсур'ёз. Ды і хлопец быў у адносінах да яе неабыякавы: наведваў яе амаль штодзень, усюды хадзілі і ездзілі разам.

Але ў апошні час я заўважыла, што нешта пачало між імі псавацца. Дачка стала нейкая неспакойная, нервовая, непрыемная нават у адносінах да нас, сваіх бацькоў. Калісь даверылася мне, што ў кампаніі на забавах яе хлопец стаў паводзіць сябе зусім па-іншаму: больш увагі звяртае на другіх дзяўчат, чым на яе. І ёй вельмі балюча глядзець на гэта, а асабліва крыўдна тады, калі яго сябры „з ласкі" запрашаюць яе танцаваць. Яна бачыць тады, як нешта няўлоўнае ўцякае ад яе... Бо яна ж хацела б быць з ім разам увесь час, не расставацца ніколі.

І тады падумала я сабе, ці не варта было б пагаварыць мне самой з даччыным хлопцам. Няхай у канцы канцоў выкажацца ў гэтай справе: альбо ўлева, альбо ўправа. Хопіць ужо мучыць дзяўчыну! Альбо шлюб, альбо... да пабачэння. А як ты, Сэрцайка, думаеш, ці паможа гэта маёй дачушцы, ці хаця не пашкодзіць?

**Маці**

Бедная маці! Ці ж ты ўжо забылася, што хлопцы вельмі не любяць, калі патэнцыяльныя цёшчы цягнуць іх сілком да шлюбу?! Разумею твой жаль і непакой за дачку, але няўжо ты думаеш, што зможаш вырашыць даччын лёс адной размовай?... Хаця... сапраўды, вырашыць зможаш, ды не ў той бок, у які хацела б. У кожнага хлопца ёсць свае меркаванні наконт шлюбу і канкрэтнай дзяўчыны. І толькі твая дачка ведае, як сапраўды выглядаюць справы, і толькі яна зможа зрабіць нешта сэнсоўнае ў імя ратавання свайго кахання. Але, зрэшты, навошта ёй такі муж, калі яна перастала яго цікавіць?.. Перахадзілі яны, відаць, сваё каханне, а мо кахаліся, ды не ў адну пару. Трэба было куць жалеза, пакуль было гарачае.

У кожным разе нават не думай гаварыць з хлопцам. Лепш пагавары з дачкою: можа яна знойдзе ў сабе сілы, каб парваць з хлопцам.

**Сэрцайка**



### ДЗВЕ СЯБРОЎКІ

Удзел у мастацкай самадзейнасці паглынае шмат часу на рэпетыцыі, на пошукі рэпертуару, на выезды з канцэртамі. Харавы калектыў з Дашоў (гміна Кляшчэлі) мае ўжо на сваім рахунку значныя дасягненні ў папулярызацыі беларускай песні, а Валянціна Міцэвіч з'яўляецца душою харыстаў. На фота яна з правага боку. З левага боку яе сяброўка, таксама спявачка Марыя Рошчанка.

**Фота Міхася Хмялеўскага**

(Працяг са стар. 5)

### АБ ЗЛАДЗЕЯХ І ЗЛАЧЫНЦАХ

яго 4 тысячы злотых і гадзіннік. Здалося ім, што гэтага замала, што іх кліент схаваў недзе грошы, дык надалей яго білі і шнырылі па кішэнях. Тады паявіліся нейкія людзі, і разбойнікі іх перапалохаліся. 19 верасня мінулага года міліцыя іх злавіла, а 15 студзеня г.г. суд у Бельску прыгаварыў: Яна Б. — на 6 гадоў турмы і 75 тысяч злотых штрафу ды 26 тысяч зл. судовых коштаў, а Яўгена Б. — на пяць гадоў турмы, 50 тысяч злотых штрафу і 18 тысяч злотых судовых коштаў. Ды яшчэ дадаткова на: (абодвум салідарна) 20 тысяч злотых у карысць пакрыўджанага і 20 тысяч злотых — на грамадска карысныя мэты, а акрамя гэтага на частковую канфіскацыю маёмасці: у Яна Б. — 8 цэнтнераў пшаніцы, а ў Яўгена Б. — матацыкл „ІЗ". Вось дык загулялі!

**В. Р.**

(Працяг са стар. 2)

### НА МЯЖЫ

І яшчэ адно. І.К. стараецца пашкодзіць беларускаму літаратурнаму аб'яднанню „Белавежа", стараючыся перацягнуць яго членаў на ўкраінскі грунт. Калі схоча, можам яму прадставіць канкрэтныя факты. А гэта ж дзейнасць не добрая, а такая, якая можа давесці да непатрэбных канфліктаў і непаразуменняў між БГКТ і УГКТ. Аднак аб гэтым пагаворым пазней.

Канчаючы, хацелася б мне толькі сказаць, што калі нешта такое здараецца, дык спачуваць трэба не тым, ад каго такі чалавек, як І.К., адыходзіць, а спачуваць тым, да каго ён далучаецца.

**Алесь Барскі**

(Працяг са стар. 5)

### ГРЫБОЎШЧЫНА

па ўзросту насельнікі падзяляюцца: да 18 год — 10 чалавек, ад 18 да 44 г.г. — 13; ад 45 да 65 г.г. — 13; звыш 65 г. — 4 чалавекі. У Грыбоўшчыне — 175 га, у тым ліку — 159 га ўжыткаў і 13 га лесу, ворыва — 123 га, сенакосаў — 21 га, пашы — 15 га. Грыбаўшчане ў 1985 г. сеялі: пшаніцы — 15 га, жыта — 33 га, аўсу — 30 га, ячменю — 5 га, грэчкі — 7 га, мяшанак — 6 га, садзілі 11 га бульбы; гадавалі: коней — 10; быдла — 98, у тым ліку 39 дойных кароў; свіней — 60, у тым ліку свінаматак — 11; авечак — 94 штукі.

Самы заможны гаспадар з высокай сельскагаспадарчай прадукцыйнасцю тут Рамуальд Панасюк. Гаспадарыць ён на 50 га, мае 2 трактары, камбайн і камплект іншых машын, а таксама паўгрузавы аўтамабіль „Тарпан". У 1985 г. Р. Панасюк прадаў дзяржаве сельскагаспадарчай прадукцыі на суму 1 мільён 504 тысячы злотых.

Вось якая наша беларуская шляхта ў сённяшнім дні. Падкрэсліваю слова „беларуская", бо пануе тут беларуская мова і беларускія традыцыі і людзі панашаму ветлівыя і гасцінныя.

**М. Гайдук**

Фота аўтара




## УЦЁКІ

Беласток. Вакзальны буфет. Насупраць мяне вялікі, румяны, у шэрым ваўняным світэры, мускулісты, малады.

— Дзяўчо, не спрачайся! Калі чалавек — мужчына, то хоць ты ствалы грызі, выстаіць. І я быў дрывасекам!

Я дзяўбу сваю жылаватую катлетку, што плавае ў маёй талерцы ў шэрабурай падліўцы і мляўкай таўканіцы.

— Ааа, дрывасекам. Хоць ты грызі ствалы?

— Але!

— Здаецца мне, начыталіся вы Стахураў усялякіх. А цяпер — у мяшочак хлеба буханку, цёплы світэр, жонку на ключ, а сам — айда ў лес?

Хлопец страпянуўся, адсунуў талерку і кінуў відэлец на заліты стол.

— Сама ты начытаная. Не пераношу інтэлігенцікаў, золатца. Ты паглядзі, козанька, як я ем! — і пачаў неахайна чвякаць.

„Горача яму ў гэтым світэры" — падумала я.

— І ў валёнках усюды хаджу. Я табе і да міністра ў валёнках запру. І з сякерай сяду перад ім. А ўсялякіх інтэлігенцікаў то я... ведаеш што?! У бюры сядзяць, дзіркі прапердваюць у крэслах... Недавучкі, недапанкі. Чысцюлечкі, паненачкі — настаўнічкі, або на лічыльнічках толькі пальчыкам, пальчыкам, пазурык чырвоненькі, каўка. А я — у валёнках!

— Ну, а дзе ж вашы валёнкі?

Да нас падыйшла дзяўчына, прысела. Прамыя рыжыя валасы, роўна падрэзаныя на карку, жоўтыя вейкі, тонкія нітачкі броваў. Усміхнулася рэдкімі белымі зубамі.

— Алік, збірайся!

— А rivederci, дзяўчо! — Алік закінуў свой ранец на плечы.

„Ну, а дзе ж яго валёнкі, гэтага дрывасека?" — задумалася я, седзячы над сваёй катлеткай.

*

Я збіралася ў далёкае падарожжа. Развітацца заходзіла, пасядзець да сваіх сяброў.

Андрэй мітусіўся ў кухні, ставіў чайнік, крыва рэзаў хлеб на бутэрброды — чым хата багата, тым і рада!

— А дзяўчаткі можна сабе ўзяці ў „Кругу" або з АЦК. Там найбольш свежанькіх, рашапэты таўкуцца ў „Крышталі" ці „Пад семафорам". Цяпер я рваў паненку з „Фастаў": свежаніна, з-пад Гайнаўкі, толькі што ліцэй скончыла. Не ўдалося зачапіцца ў гміне, у Варшаву ва універсітэт „пункты" не дапамаглі... Элеганцыя-Францыя, які тавар! Цяпер то табе не вёха, што адзене крэмплін ці „швэды". Цяпер то, коцік — не распазнаеш, шык! І волас, і порткі, і цела. Без ніякіх бюстгальтэраў, яна яшчэ ў такім узросце, што ўсе плеўкі ўсё яшчэ добра трымаюць, цыцка скача, як на пружыне. Ну, і воля. Торбу мяса і

# БЕЛАВЕЖА ПАД СНЕГАМ

Розныя бываюць зімы ў Белавежы. І вельмі марозныя (хаця б у мінулым годзе), і амаль бясснежныя. Зіма ў гэтым годзе капрызная. Белавежцы наракалі на частыя і вялікія хістанні тэмпературы паветра, на адлігі, на вецер, на снег, а пасля — на мароз.

У другой палове студзеня г.г. на працягу некалькіх дзён мястэчка было амаль цалкам адрэзана ад свету. Ішоў увесь час мокры снег. Зрабілася галалёдзіца. Ад вялікага цяжару ламаліся галіны дрэў. Прыгіналіся да зямлі ляшчыны, маладыя ліпы, грабы. Шаша, якая злучае Гайнаўку з Белавежай, стала непраезной. Падаючыя дрэвы сур'ёзна пашкодзілі энергетычную лінію. Неўзабаве замоўклі тэлефоны. Функцыянiравала адна чыгунка (а гэтак жа часта на яе наракаем!), якой давозілі з Гайнаўкі спажывецкія прадукты. Дзякуючы вялікім намаганням мясцовых атрадаў цывільнай абароны, працаўнікоў пушчанскіх надлясніцтваў, войска, моладзі з Ляснога тэхнікума, а таксама энергетычнай і дарожнай службаў, праз некалькі дзён была ачышчана шаша і галоўныя дарогі, якія злучаюць навакольныя вёскі з Белавежай. Паплыло ў мястэчка святло, адазваліся тэлефоны. На жаль, тысячы паламаных дрэў будуць яшчэ доўга чакаць, пакуль вывезуць іх з лесу. Зімой да іх не дабрацца. Непраходнымі сталі лясныя турысцкія шляхі, устрыманы быў рух на тэрыторыі Белавежскага нацыянальнага парку.

Сёлетняя зіма надакучыла не толькі людзям, але таксама (а мо і перш за ўсё) лясным звярам. Усе: і людзі (асабліва леснікі), і звяры — з нецярплівасцю чакаюць вясны.

Белавежскую зіму '86 увекавечыў на здымку Артур Дамашэвіч. Паглядзіце!

**П. Байко**







## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

Kompleksowa ochrona ziemniaków w województwie białostockim. Wnioski i referaty programowe z konferencji naukowo-technicznej w Mońkach, 6—7.X.1984 r. WOPR. Białystok 1984 (wyd. w 1985 r.), ss. 40.

Teresa Jasińska-Socha, Jadwiga Głuszkowska — Skrypt do zajęć praktycznych z języka białoruskiego (wybór zagadnień morfologiczno-składniowych). Wyd. Uniwersytetu Warszawskiego, Warszawa 1985, ss. 191, cena 71 zł.

Теотын Ротт-Жебровский — Кирилловская часть Реймского Евангелия. Лингвистическое исследование Wydział Humanistyczny Uniwersytetu Marii Curie-Skłodowskiej, Lublin 1985, ss. 232, cena 190 zł.

Hanna Więckowska — Osadnictwo późnopaleolityczne i mezolityczne nad dolną Narwią. Instytut Historii Kultury Materialnej PAN. Ossolineum, Wrocław 1985, ss. 171, IV, cena 350 zł (Seria: Polskie Badania Archeologiczne, t. 24).

Celestyn Wrębiak — Strój podlaski. Muzeum Okręgowe, Biała Podlaska 1985, ss. 16.

W. A. Bołotnikowa i in. — Kuchnia białoruska. Wydanie 2. Państwowe Wydawnictwo Rolne i Leśne, Warszawa 1985, ss. 128, cena 160 zł.

Bilet do stacji Pierwsza Miłość i inne wiersze. Wybór: Stanisław Ulicki. „Nasza Księgarnia". Warszawa 1985, ss. 112, cena 200 zł. (Antologia poezji radzieckiej, w tym także białoruskiej).

**П. Байко**

(Працяг са стар. 5)

## З МАЁЙ ЗВАНІЦЫ

вяскову скібку, быццам бы не шкадуючы. Жонка скончыла падаграваць звараны мною суп і, налўшы ў талерку, хацела есці. Толькі ўзяла на зубы прынесены хлеб, адразу енкнула ды схапілася рукою за рот.

— Што з табою, мілая, мо язык прыкусіла? Не хапай так!

— Ужо ж, той замаховец прыслужыўся, што я зубы паламала!

Я сапраўды спужаўся, што мо паламала, але высветлілася, калі ўжо падабрэла жонка, што толькі адзін выламала, затое пярэдні. Нават крыўдна мне стала, што з-за аднаго жончынага зуба я стаў замахоўцам у яе вачах, замест падзякаваць мне, што цяпер будзе жалезны, значыць — вечны.

**Васіль Петручук**

яек прывалачэ што надзельку, закуска заўсёды. І наясіся, і намацаеш. Няхай знаюць пана...

— Андрэй! Што з табою? Ты што плянтаголіш? Беляны напіўся?

— Ты мая сяброўка, так? Скажы праўду!

— Заўсёды стараюся цябе зразумець. З гэтым усё цяжэй. Ну, што?

— Анка.

— Тааак? То яна яшчэ для цябе існуе на гэтым свеце? Даўно ты яе бачыў.

— Яна не хоча.

— Чаго? Здаецца, ты не хацеў. Уй, што за прыклад заказанай пары для мяшчан. Беласток стары і малады млеў з зайздрасці. І раптам наш Андрэйка на дыбы стаў. Адбіла табе, га? Такой дзяўчыны, ты ведаеш, дурню...

— Ведаю. Так добра як і тое, што жаніцца не буду.

— Калі ласка. Вялікае шчасце, думаў бы хто.

— Думала, што мяне зацягне пад прастол.

— Вялікі ты цуд, стрэкачу ты, каб цябе цягнуць куды.

— Відна ёсць ува мне што такое, чаго ты не заўважыла! Ну, чорт вазьмі, яна не хоча!

— Чаго?

— Я грошы ёй даваў. Кажу — бяры. Усё табе дам, кажу. А яна — не. Ну, кажу, то ідзі ты да чорта. Не думай, што я буду сабе жыццё завязваць, пятлю шукаваць. Ды і чорт яе ведае, з кім дарабілася, цягло такое...

— Заткніся ты! І ты яшчэ...

— Крычу ёй: што ты мне нарабіла! Тата мой кажа: ну, што ж. Відна, Бог так хацеў, каб мы разам былі, калі яе на кватэру прынялі. Бог! Сама захацела. Праўду мама выясніла: захацелася гаўняку з вёскі запанаваць, віла ў Беластоку замарылася, на гатовенькае адразу...

— Андрэй! Такога хамства я ніколі не чула. Не спадзявалася. Хто марочыў дзяўчыне галаву, інжынерык ты, вялікія словы хто гаварыў?

— То і не марочу. Хопіць. Кажу: залатая, добра нам было разам, даў я табе шчасце, ты мне таксама. Яшчэ час, падумай. Грошай табе не шкадую. Пасля будзе нельга, яшчэ захварэеш. Ясна ўсё стала, а яна — не ды не! Прымусіць мяне хоча. О-о-о, гэта ёй не ўдасца! Няхай і не думае. Ты скажы ёй так. Ага, калі ты выбіраешся на Звежынецкую? Вазьмі мяне з сабою, разгледзім новае мяса.

*

Маляванне вока Алькі — свяшчэннадзейнае накладванне колераў, жэстаў, поглядаў углыб люстэрка. Вока рабіла ўражанне. Алька ўжо пасля 200 грамаў размякала, яе голас рабіўся паўзучы. Спачатку была „душою кампаніі", а пасля трэ было яе цягаць па розных паверхах. Альку ведалі хлопцы як рафінаваную інтэлектуалістку, якая ў ложку любіла гутарыць аб Кафцы і Джойсе, глытаючы дым „Карменаў".

*

У лістападзе ўдалося мне на некалькі дзён вырвацца з Масквы ў Беласток.

Халадэча. Я халоднымі рукамі лавіла кашалёк у сваёй распухшай торбе, калі хтось мяне схапіў за локаць.

— Добры вам дзень! — кажа мне стаяў Алік, румяны ад марозіку, у сіняй куртцы.

— А дзе ж вашы валёнкі? — зацікавілася я. Мне было радасна глядзець на яго вясёлыя шчокі і рыжыя вейкі.

— У лесе забыўся. Мядзведзям пакінуў на зіму. Вядома, халадна касалапым у пяткі.

— Так, зіма ідзе. Хоць ты стваль грызі.

— Гавораць, вельмі цяжкая зіма. Пакідаю лес. Да людзей іду, пагрэцца.

(Працяг на стар. 8)

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




**УСІМ НАСТАЎНІЦАМ, МАМАМ, ЦЁЦЯМ, БАБУЛЯМ І НАОГУЛ УСІМ ЖАНЧЫНАМ УСЯГО НАЙЛЕПШАГА Ў ДЗЕНЬ IX СВЯТА жадае**

**„ЗОРКА“ і яе малыя чытачы.**

**На здымку: Настаўніца са школы ў Дашах Валянціна Дуда, якая штогод рыхтуе сваіх выхаванкаў на конкурс беларускай песні, са сваім сынкам Міколкам.**

Зінаіда Грыева

## ТАБЛІЧКА МНОЖАННЯ

Калі ў сшытку пяцёрка, ногі самі нясуць цябе дадому. Тады і сумка лёгкая, і тры паверхі — быццам тры ступенькі. А калі двойка або, яшчэ горш, адзінка, тады і сумка, як бетонная, і трэці паверх пад самым небам здаецца. Лезеш да сваіх дзвярэй, быццам сонная чарапаха.

Так і Сярожка. Павольна падышоў да дзвярэй, пастукаў. Адчыніла бабуля. Сярожка з палёгкай уздыхнуў: „Значыць, мамы яшчэ няма“.

— Ну, школьнік, чым сёння пацешыш? — спытала бабуля.

Сярожка ўсміхнуўся, хацеў адказаць, што ўсё добра, але бабулю не падманеш. Глянула сурова на ўнука, быццам усё ўжо ведала:

— Няўжо двойку прынёс?

— Адзінку, — сумна прамовіў Сярожка. — І ўсё таблічка множання вінаватая. Яна страшна цяжкая і незразумелая. Але я яе вывучу, вось пабачыш, бабулька, вывучу, — паспешліва завяраў Сярожка, ведаючы, што бабулі можна наабяцаць, і яна паверыць. Іншая справа — бацькі...

Пачуўшы Сярожкаў голас, у пакоі з галасным брэхам уляцеў яго любімец, сабака Бублік.

— Бублічак, вітай! — адразу павесялеў Сярожка. — Як ты тут без мяне?

Сярожка сеў на канапу, а Бублік прымасціўся ў яго на каленях. Візжыць, лашчыцца, стараецца лізнуць у твар.

— Эх, Бублік, табе добра, — адварочваецца Сярожка ад сабакі. — У школу хадзіць не мусіш, ніхто цябе не прымушае вучыць таблічку множання і не ставіць ацэнкі...

Адной рукой Сярожка прыціскаў да сябе Бубліка, другой узяў сваю сумку, выцягнуў сшытак і раскрыў на той старонцы, дзе стаяла адзінка.

— Глядзі, Бублік, во якая! Чырвоная, здаравенная!

Бублік схапіў зубамі за бераг сшытка і зарычаў. У адзнаках ён не разбіраўся, але адчуваў, што хлопчык нечым не задаволены. Каб развесяліць Сярожку, ён скочыў на яго, паваліў на тапчан, потым падбег да сумкі і пачаў цягаць яе па падлозе.

А пазней была размова з бацькамі. Мама сказала, што сёння Сярожка на вуліцу не пойдзе — ён пакараны. Няхай сябры гуляюць у мяч без яго, бо ён будзе вучыць таблічку множання. Тата дадаў, што прададуць білеты, і ў цырк яны не пойдуць. Такога ад таты Сярожка не спадзяваўся...

Мама задумалася, а потым злосна сказала:

— Сядай за стол, вучы таблічку множання і запамятай: усё залежыць ад цябе.

Вядома, Сярожка таблічку вывучыў. Чаго не зробіш, каб пайсці ў цырк!

... Цырк Сярожку спадабаўся. Асаблівa дрэсіраваныя сабакі. Яны танцавалі, вазілі адзін другога ў маленькім возіку. А потым... потым на арэну важна выйшаў звычайны сабачка, і дрэсіроўшчык сказаў, што завуць яго Лялька і ён ведае таблічку множання на „пяцёрку“. Дзеці засмяяліся, а дрэсіроўшчык пагладзіў сабачку па спінцы і папрасіў, каб Лялька не здавалася, а лепш каб адказала ім, колькі будзе, напрыклад, тры разы тры.

Лялька брахала, а Сярожка ўважліва глядзеў і незаўважна ад бабулі лічыў, загінаючы пальцы: „Адзін... два... тры... чатыры... пяць... шэсць!..“

Лялька замоўкла. У зале ўзняўся шум і смех, дзеці запляскалі ў далоні. Сярожка таксама біў брава.

Так, думаў ён, не такая ўжо цяжкая і незразумелая гэтая таблічка множання. Зусім няцяжкая!



Дзяўчаткі (і хлопцы) са школы ў Гародчыне вельмі ўважлівыя на ўроках. Фота Я. Чэрнякевіч

Паўлюк Пранузa

### МАМІНЫ РУКІ

Маміны рукі
самыя лепшыя:
Няньчылі, гушкалі,
лашчылі першыя.
Маміны рукі
самыя добрыя.
Маміны рукі
самыя шчодрыя.
Маміны рукі
дужа руплівыя,
Маміны рукі
заўсёды цярплівыя.
Маміны рукі
самыя ветлыя,
Маміны рукі
самыя светлыя.

Іван Чарнецкі

### ЦЁПЛЫ СМЕХ

Лесам, полем зайка бег,
Нёс ён смеху поўны мех.

Спатыкнуўся — і на снег
Высыпаўся цёплы смех.

І з пагоркаў да ракі
Паліліся ручайкі.

З украінскай мовы пераклаў Васіль Жуковіч

Ул. Гардзейчаў




КАЗКА

Пачатак у папярэдніх нумарах.

Жыў, не знаўшы Аха з Охам,
у прылеску дзед-бабыль,
звалі ўсе яго Цімохам,
балалайку ён любіў.

Не хацеў дзед паддавацца
познім вечарам журбе
і дрынчэў на балалайцы,
падпяваючы сабе:
— Ой, лапці мае,
дзіва-лапцейкі...

Стук пачуўся за парогам,
перастаў дзядуля пець
і на дзверы глянуў строга,
кажа:
— Бацюхны, Мядзведзь!

Госць не ў час. Магчыма, нанач?
Ці наўцёкі ад бяды?..
— Ты чаго, Мядзведзь Іваныч,
завітаў з глушы сюды?

Ён аддыхаўся і выйшаў
трошкі ўперад, гнеў суняў:
— Пачалі сваволіць мышы,
мо дасі мне кацяня?

Як не даць, калі суседзі
дружаць столькі зім і лет?
І Мурлыку для Мядзведзя
з бакавушкі вынес дзед.

Напаіў Мядзведзя квасам.
Прапануе:
— Спець бы, друг! —
Песню тэнарам ды басам
пачалі суладна ўдвух.

Пеў Мядзведзь, тугі на вуха,
горш, чым драч які стары,
але ў згодзе, з лёгкай скрухай
развіталіся сябры.

(Працяг на стар 10)

### BIAŁORUS

(любоўная)



Chciałbym ci swój los opowiedzieć
co w moim sercu wciąż kryje się
Pokochałam ładnego Białorusa,
dla którego ja pragnę tylko żyć.
Cukierkami mnie zawsze częstował
ach, jak dobrze mi było z nim być.
Ciągle mi coś na migi pokazywał,
że ja jego, ach, jego muszę być.
Raz napisał tak do mnie braciszek:
„Ach, siostrzyczko, opamiętaj się —
nasza mama tak ciężko leży chora,
opłakuje złe postępki twe".
Ach, za późno, braciszku, za późno,
ach, za późno opamiętać się
jestem żoną ładnego Białorusa,
dla którego oddałam serce swe.

*) Трэція і чацвёртыя радкі паўтараюцца.

Ад Марыі Байгус, год 40, родам з в. Крывяцічы гм. Орля, і Анны Пісанка, год 40, родам з в. Краснае Сяло гм. Боцькі, абедзве спявачкі больш за 20 год жывуць у г. Беластоку, запісаў 17 кастрычніка 1985 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.



# НІЎКА

### ПАЦЕШЫЛА

Выздараўліваючы хворы прызнаўся сімпатычнай сястры:

— Я вас так люблю, што не хачу папраўляцца.

— Не хвалюйцеся, — адказала медсястра, — вы і не паправіцеся. Лекар таксама ўва мне закаханы, а ён бачыў, як вы ўчора мяне цалавалі.

### ХТО ЛЯГЧЭЙШЫ?

— Я важу толькі шэсцьдзесят кілаграмаў! — хваліцца задрыпанка суседцы.

— А я лягчэйшая на пяць!

— А затое ў мяне муж худы!

### ПРАЎДУ КАЗАЛА

— Пятро сказаў, што, калі я не выйду за яго замуж, ён звяр'яцее.

— Пакінь! Учора ён прасіў руку ў мяне.

— Божа! А я што казала?!



### ПАРАДА

Размаўляюць дзве сяброўкі.

— Адзінае, у чым я магу ўпікнуць свайго нарачонага, дык гэта ў тым, што ён заўсёды дрэнна паголены.

— А ты паспрабуй як-небудзь прыйсці да яго на сустрэчу ў час.

### СКЛЕРОЗ

Купіў кветкі, а падарыў жонцы.

### РАЗЗБРАЕННЕ

Пані Задрыпкоўская разважае перад люстрам:

— Жаночая краса — гэта непераможная зброя.

— Праўда, праўда, — падзіўся муж, — але дзе браць грошы на гэтае ўзбраенне?!

### ЧАМУ НЕ ГАВОРЫЦЬ?

— Мамачка, а колькі гадоў нашаму сабачку?

— Столькі ж, як табе.

— Дык чаму ён яшчэ не ўмее гаварыць?



Не любіць такую прыгожую жанчыну — злачынства, любіць — кара.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Перакананы халасцяк гаворыць свайму сябру:

— Жанчыны — горш разбойнікаў.

— Але чаму, П'ер?!

— Таму што разбойнікі патрабуюць партманет або жыццё, а жанчыны — і тое і гэта.

— ● —

— Ты пайшла б за мяне замуж?

— Пайсці б не пайшла, а вось на „Жыгулях" паехала б!

— ● —

Зайшоўшы на кухню, гаспадыня выявіла ў пасуднай шафе мужчыну.

— Што гэта значыць, Люсі? — абурана спытала яна сваю новую кухарку.

— Уяўлення не маю. Відаць, ён застаўся ад маёй папярэдніцы.

### З „Веснікa Задрыпоні"

### АБ'ЯВА

Маладая цікавая бландзінка, спартсменка (плаванне), разведзеная, рост 1.67, блакітныя вочы, асобная кватэра ў станіцы з усімі выгодамі, згубіла сабачку без асаблівых прыкмет. Бачыўшых яго несямейных мужчын да 35 год просяць асабіста паведаміць (Дом адпачынку „Смарагд", корп. 2, пал. 34. Ніна). Жанчын і людзей старэйшага ўзросту просяць не турбавацца.

### БАНТОН

Улічваючы каверзы сучаснай моды, перш чым уступіць месца жанчыне, пераканайцеся, ці сапраўды гэта жанчына.

З чаго смяюцца суседзі



— У гэтым модным гальштуку ты зможаж абыйсціся без фартуха.

### ЗАМОВА АД ПРАГНАСЦІ

Лапы прасцёрла —
Абняць мяне хочаш?
Соль табе ў вочы,
Дзяркач у горла.
Кіпці ўжо точыш —
Ураз бы абдзёрла.
Соль табе ў вочы,
Дзяркач у горла.
Раздзетага ўночы
З хаты б прапёрла.
Соль табе ў вочы,
Дзяркач у горла.
Пуза валочыш,
А ўсё б пражорла.
Соль табе ў вочы,
Дзяркач у горла.
Можа, не вельмі
Слых я твой лашчу —
Соль табе ў ьаЙао.ж
Дзяркач табе ў пашчу!

**Васіль Вітка**

(Працяг са стар. 2)

### НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

сваё жыццё з зусім невядомым еўрапейцам, не пабачыўшы яго ні разу ў вочы, — справа не лёгкая. Так што, выбраўшы сабе сяброўку па каталогу, вы павінны яшчэ заплаціць фірме за зносіны з яе бацькамі і даць бацькам за яе пэўны выкуп. Вядома, у нейкім сэнсе справа агентаў фірмы становіцца прасцей, дзякуючы росту беспрацоўя і беднасці ў краінах Далёкага Усходу. Там людзі ўсё больш згаворліва развітваюцца са сваімі дарослымі дочкамі, марачы папраўляць асабістыя справы за кошт выкупу і аб тым, што раптам дачцэ таксама пашанцуе на добрага еўрапейца недзе на далёкім свеце. А многія з іх згодны на любое замужжа. Калі ж не пашанцуе там, на месцы, камусьці спадабацца, то фірма гарантуе праязны білет у абодва канцы — у Еўропу і назад, а за нешта большае ўжо прабачце.

Усяго фірма Менгера сасватала да двух тысяч такіх экзатычных жонак. За тое, што шлюбы аказаліся далёка не ўсе трывалымі, яна адказнасці не нясе. Іншае пытанне: куды потым падзецца забракаваным жонкам-чужынкам, якім не пашанцуе? Пашукаць менш пераборлівага жаніха? А як і другі не знойдзецца? Што рабіць адзінокай жанчыне на чужыне, не маючы даху над галавой, не маючы работы і сродкаў для існавання? Але гэтыя пытанні хвалююць пакуль што ўзнікшыя новыя таварыствы ў абарону жанчын-не суайчынніц — жаночыя лігі.

**А.Л.**







